facebookwkhpilnemxj7asaniu7vnjjbiltxjqhye3mhbshg7kx5tfyd.onion
(2022-11-15)

# (14) Facebook

---

ЦІ ПРАЖЫВАЎ СЦЯПАН СЯМЁНАВІЧ ВАБШЧЭТКІ ХОЦЬ РАЗ "ВОСТОРГ ЛЮБВІ"?

У загалоўку два ключавыя словы: нейкі беларус з мянушкай "Вабшчэткі" і расейскі дэрыват з царкоўнаслвянскай -- "восторг".

Вы зразумелі, што я усміхаюся і "загавеньваю" апалонікам бясконцую тэму, -- расейская таямнічая душа і архетып беларуса.

Я спецыяльна не спраўджваю, як дакладна назваў імя і імя па бацьку свайго памяркоўнага лірычнага героя Анатоль Кудравец. Вабшчэткі для мяне – архетып. Я ІДУ ЎСЛЕД ЗА СЛОВАМ.

Мне, як і шмат каму з беларусаў, хто чуйна ставіцца да слова і начытаны ў расейскай паэзіі кахання, падсвядома карцела знайсці ў нашай мове адэкватны адпаведнік расейскаму "восторг любві". (Бо здаралася з першага погляду закахацца). Да не тут-то было. Воз быў а ні з месца.

Я мог бы лёгка стварыць падобнае семантычнае словазлучэнне, пакачаўшы ў роце словы "жарсць", "парыванне", "каханне" і да т.п.. але ж расейскі "восторг любві" непазбежна прымушаў тут жа спяваць з памерам і рытмам "Не уходи, побудь со мною ..".

Як звычайна, павандраваў я ў хатнія расейска-нямецкі, нямецка-французкі, французка-ангельскі ды тлумачальны французкі Лярус … Як дайшоў да французкага PLAISIR d'AMOUR, супакоіўся.

Была ў нас некалі дома доўгагральная пласцінка на 78 кр/мін з Абухавай па-расейску і па-французку. Высокія французкія жарсці кахання расейцы кампенсавалі стараславяншчынай. А наша ж новая

літаратурная мова (у параўнанні са ст.бел. мовай) стварылася на базе народных гаворак, дзе стараславянізмы сустракаюцца спарадычна ў непазнавальна змененым выглядзе!

“Восторг” – утворанае з дапамогай “тэмы” Ъ ад ст.-сл. «въстъргати» выклікала ў мяне з маёй дзіцячай мовы толькі слова ТОРГАЦЬ (нешта ў назе торгае, мусіць нарывае) , што супадае з прэфіксальным вытворным у ст.-сл. “търгати», што значыць «рваць».

І праўда, калі закахаешся, у душы нешта торгае, -- чакай нарыву і выбуху))

І падумалася мне: не ў той бок я іду!

ТОЛЬКІ ЎМЕЙ ШУКАЦІ БЛІЗКА …

Не тлумачу, адкуль радкі ў загалоўку. Будзе непаважна да добрага чытача.

Былі і ёсць ў нас свае мінэзінгеры, трубадуры і рапсоды. Толькі, не маючы слоў кшталту “дерзать”, “лобзать”, не стаялі яны пад балконамі з гітарамі і не заходзіліся на верхнім “до” на маснічынах высокай сцэны, а ціха спявалі пра чабор і дзівіліся на зоркі ў сваіх шчырых і не заўсёды дасяжных пачуццях .

Нават у вытанчаным лірычным тэнары Забэйды-Суміцкага чуюцца мне “Зорачкі” Сяргея Новіка-Пеюна: “Песня матчына/ лашчыцца лапкай вярбовага коціка,/ Калыханкай Забэйда-Суміцкі калыша / смутак свой і ўсіхны …" Гэта – Рыгор Барадулін.

Захацелася выдыхнуць радкі Генадзя Бураўкіна пра першы дотык закаханага сэрца беларуса да сваёй Лауры, дзе ён знайшоў, як, магчыма, ніхто з беларускіх паэтаў цнатлівыя словы захаплення белымі плячамі сваёй любай у мройным покрыве кароткай летняй ночы…

Але, як я ні напружваў сваю рытмічную і лексічную памяць, не змог ўспомніць словы і кніжку не мог знайсці ў сваей неўладкаванай

папяровай гаспадарцы.

Працытую тыя радкі з Бураўкіна, што помню на памяць. Магу памыляцца.. Не бяды. Паэзія – гэта тое, што застаецца, калі забываюцца словы. Вершаваны памер як бы лёгкі, трохі жартаўлівы. Але вельмі беларускі паводле зместу і з непрыдуманымі імпульсамі пачуццяў, амаль дзіцячы харэй:

Для цябе я ‘ўсё зраблю,/ Што ты ні захочаш: // Убяру ў сады зям’лю , / ‘Зор насыплю ноччу, // Маладога салаўя / Пасялю на ‘ганку / Нашапчу табе здаля / ‘Казку-калы’ханку // ‘Сцежку тайную знайду/ Праз агонь і воды / Адвяду тваю бяду / раз і назаўсёды. // Сонца ў хату нанашу, супакою сэрца … // Толькі ты маю / Маю душу / Дапусцці сагрэцца.

Апострафам абазначаю рытмічны націск, дзе ён мне чуецца. У некаторых радках яго няма. Там – “рытмічная дуга чакання”.